Год II. Травень № 6 (16).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 6.




# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

| | |
|---|---|
| Падпіска месячна . . . . . . | 35 гр. |
| „ на паўгода . . . . . . | 2 зл. |
| „ на год . . . . . . . | 4 зл |

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

| | |
|---|---|
| Цэлая старонка . . . . . . . | 40 зл. |
| Паўстаронкі . . . . . . . . . | 20 зл. |
| Адна чацьвертая старонкі . . | 10 зл. |

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, — Травень 1930 г. | № 6 (16). |
| --- | --- | --- |

## Заданьні дзяўчат у беларускім адраджэнскім руху.

### АБУДЗІЛАСЯ—АБУДЗІЦЕСЯ!

Вясна, вясна ўрэшце і к нам ты прышла!

Сонейка мацней падагрэла — сьнег стаеў, лёд сплыў, птушачкі, гаяў і лясоў нашых весялушачкі, вярнуліся да нас і ўсіх пачалі будзіць сваімі прыемнымі трэлямі да жыцьця, да працы.

Мілыя песьні вясны над родным краем адазваліся—абудзілі яны і мяне. Абудзілася і глянула вачмі памяці сваей на час, каторы праспала—сапраўды, сумна і шкода стала, што так доўга і моцна спала, аднак абудзілася і з гэтага вельмі і вельмі цешуся. Цяпер прынамсі шырэй гляну на сьвет і жыцьцё, і з усіх сіл буду старацца працаваць, каб падвойнай працай спагнаць страчаны час.

Буду працаваці—дзеля Роднай Маці,
Каб палепшыць долю—скараціць нядолю
І здабыць свабоду—роднаму народу.

Няхай-жа гэтыя першыя мае, мо' і кволыя слоўцы трафяць у неразбуджанае яшчэ сэрца беларускае дзяўчынкі.

— — — — — — — — — — — —

Абудзілася зямелька і пачула ў сабе сілу да жыцьця, абудзіліся птушачкі, абудзілася траўка і пачынае зелянець, дрэўцы пачынаюць крапчэй шумець... Абуджаюцца, як ведама, і браты, калегі нашыя, ня толькі вучоныя, але і вясковыя ўжо абудзіліся і даўно ўзяліся за працу і, ня гледзячы на перашкоды, многа зрабілі. Дык чаму-ж ты сьпіш, сястрыца,

беларуская дзяўчынка, ці-ж нам не пара абудзіцца, ці-ж мы ўсё зрабілі, што маглі і павінны былі зрабіць дзеля адраджэньня Бацькаўшчыны? Ці-ж не чакае нас адказнасьць перад бацькамі нашымі, каторыя пралівалі пот і мазалі знасілі, гадуючы і выхоўваючы нас у так трудных абставінах? Ці-ж голас душы нашай ня кліча нас да супольнай працы, каб палепшыць долю, калі ужо не бацькоў, то прынамсі прышлых пакаленьняў; ці вялікая ідэя Адраджэньня Бацькаўшчыны не захоплівае нас; ці-ж толькі браты і калегі нашыя маюць на гэтым полі здабываць заслугі, а мы маем быць горшыя за хлапцоў? Праўда, слабейшыя мы фізычна ад іх, але надта-ж ня хочацца мне з гэтым згадзіцца, што быццам і духова мы ніжэй ад іх стаім.

Няхай там, як хто, але мы, Крывічанкі, пакажам, што і мы так, як браты нашы патрапім дзеля адраджэньня роднай і каханай для усіх нас Маці штось зрабіць. Дзяўчаткі, мы павінны ўзяцца да працы!

## ШТО МОГУЦЬ І ПАВІННЫ ЗРАБІЦЬ ДЗЕЛЯ АДРАДЖЭНЬНЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ДЗЯЎЧАТЫ?

Добры гаспадар, а таксама і талковая гаспадыня, каб бяз працы ня кідацца з кута ў кут, яшчэ з вечара абдумае, што і як мае назаўтра рабіць сама і падуладныя, а калі ня ўдасца гэта зрабіць з вечара, то як толькі абудзіцца, першыя думкі яе аб гэтым будуць. Дык і нам, калі ўжо абудзіліся, астаецца абдумаць, што мы рэальнага можам і павінны зрабіць дзеля Адраджэньня свайго народу.

Перадусім, патрэба нам *усьведамляцца самім*, разглядаць дзеі іншых народаў агульна, а свайго пэўнеж асабліва; застанаўляцца, якія былі прычыны няволі нашага народу, у якіх цяжкіх абставінах жыў ён праз цэлыя вякі, аднак не загінуў — і дзякуючы чаму? Зразумеем мы тады, што дзяржавы ёсьць творам людзкім, народы—Боскім. Бо пачуцьцё нацыі ёсьць правам натуры, яно ўліта ў сэрцы нашыя праз бацькоў нашых, а калі правам натуры, то і правам

Божым, бо хто-ж надаў правы прыродзе? А йзноў, дзеля чаго ўліў Бог у душу нашу гэтае пачуцьцё?— Тым самым, што Бог стварыў нас, даў нам права да жыцьця і разьвіцьця. Дык тады ясна: хто забівае пачуццё народнае ці то ў сабе, ці ў другіх, што найчасьцей бывае, той забівае права Божае, змагаецца з Богам. А хто сільнейшы: Бог, ці чалавек і хто перад кім будзе адказным? Вялікая адказнасьць тых, каторыя гвалцяць прыродныя правы кожнага народу на адраджэньне і жыцьцё.

Другой патрэбай ёсьць — старацца *другіх усьведамляць*. Праўда, многа зрабіў той, хто застанавіўшыся глыбей, праканаўся аб гэтым, што міласьць да свайго народу ёсьць ня толькі правам Божым, але і загадам Ягоным: яна-ж выплывае з чацьвертага прыказаньня Божага. Хто гэта зразумеў і паводле гэтага права жыве, той заданьне сваё выпаўняе, але гэта яшчэ ня ўсё. Добра самому ведаць, кахаць, але яшчэ лепш навучыць і другіх... Хто праўдзівую і гарачую чуе любоў да свайго краю, народу, той напэўна не замкнецца ў сабе, як той жоўл, не, ён адчуе ўсю долю і нядолю брата, бліжняга і ўсяго народу, той напэўна пасьпяшыць прылажыць руку да супольнай будовы.

Пасьпяшым-жа і мы ўсе да гэтай вялікай працы—хто чым і як можа: адна пяром, другая словам, а ўсе добрым прыкладам, бо як кажа старадаўны філёзаф—словы толькі павучаюць, а чыны пацягіваюць.

А аб чым-жа мы маем сваіх сястрыц усьведамляць? — А вось аб чым: што мы, Беларусы, ня горшыя ад другіх народаў; што мы маем такое самае права да разьвіцьця, як і іншыя народы, а калі мы, як кажуць многія, бедныя, то ў гэтым не саўсім наша віна; калі мы ня маем яшчэ гісторыі, літэратуры, як іншыя, то і яны-ж калісь ня мелі, а з часам і мы будзем мець. Ды чым наша мова брыдчэйшая ад іншых, а калі нават і так, як кажуць некаторыя, што яна „простая“ дык ці-ж дзеля гэтага мы маем яе стыдацца, выракацца? — Ці-ж я маю стыдацца і выракацца сваей маткі за тое, што яна нявучоная, простая

і жыве ў беднаце?... Якая-ж тады была-б я дачка? Выродкам? Сьцеражы-ж мяне Божа ад гэтага! На такую самую назову—выродкаў, заслугоўваюць усе тыя, каторыя стыдаюцца і выракаюцца сваей мовы.

І мы маем багатую і слаўную мінуўшчыну, толькі, на жаль, ня ўсе ведаем аб ёй. А калі мы сяньня мо' й ня маем, у параўнаньні да іншых народаў, так багатай літэратуры—то не бядуйма... Гэты бязцэнны скарб паэзіі ў сэрцы нашага народу астаўся схаваны і някрануты, ён будзе некалі крыніцай магутнай сілы ў важнай дзеля яго хвіліне... Бо не забывайма, што „сам народ—пясьняр". Кожная мова ёсьць прыгожая, як твор духа людзкога, а тым больш свая родная. Хто яе выракаецца і хто стыдаецца, той ломе права Божае і раніць матчына сэрца.

Дык ня стыдайся, сястрыца, калежанка, сваей мовы; ужываюць яе, дзякуй Богу, ня толькі „хамы", як можа не аднэй з нас здавалася, але і людзі вучоныя, студэнты і прафэсары на ўнівэрсытэтах.

Хто кахае свой народ, таму мілая ёсьць яго мова, той ня стыдаецца яе, але стараецца выраблаць, адкідае ладаткі непатрэбныя, чужыя.

Часта здараецца спаткаць паміж людзьмі, а асабліва паміж намі, дзяўчатамі, як гэта кажуць: сапраўдных нявольнікаў паглядаў людзкіх. Як-жа часта не адна дзяўчынка разумее, што гэта так, а ня інакш трэба было-б зрабіць, прakананая ёсьць добра, нат' хацела-б так, як розум і сумленьне кажа, зрабіць— але-ж адна бяда—яна стыдаецца, баіцца, задае сабе пытаньне: як на мяне людзі глядзець будуць, што на гэта скажуць, як уважаць будуць і г. д.

Сястрыца даражэнькая, стань на берагу возера і глядзі, што да берага з хвалямі прыплыве—не пераглядзіш; таксама пачні зважаць на гэта, што на цябе людзі скажуць—не пераслухаеш. Сапраўды, час нам ўжо вызбыцца з няволі паглядаў людзкіх, паступайма мы так, як сумленьне нам кажа.

Часта бывае так, што ў сьвята зьбярэцца моладзь на „вечарынку", падчас якой танцуюць, у рожныя гуль-

ні гуляюць, папяюць, пасьмяююца і, калі толькі на іх бываюць усе свае, то і надта вясёла час правядуць. Але калі паміж імі знайдзецца адзін-другі жаўнер польскі, ці якісь даўнейшы шляхціц, ці так сабе які ўрадовец, ды калі пачне польшчыць, то тады нашы хлапцы, а яшчэ больш дзяўчаты як-бы зьвязаны нечым, тады ўжо песьні роднай не пачуеш,. таксама гульні сваей абычаёвай ня ўбачыш, хоць ня ўмеюць, пачынаюць пяяць песьні чужыя, танцаваць танцы модныя, хоць брыдкія, абы толькі чужыя і гэта ім здаецца, што яны мудра і дэлікатна паступаюць, а тымчасам саўсім неразумна.

Дзякуй Богу ня ўсюды гэта так дзеіцца: ёсьць у нас ужо і такія вёскі, дзе моладзь не зважае на гасьцей, хоць-бы там быў сам палкоўнік, ці няведама які пан, родная песьня плыве і звоняць гукі роднае лявоніхі.

Ня стыдаймася-ж і не зябываймася сваіх песьняў, „ад дзядоў і прадзедаў гэты скарб адзіны нам дахаваўся.“ Таксама не забываймася добрых абычаяў нашых бацькоў пр. з эванэліяй, з „Альлелюя„ на Вялікдзень хадзіць і іншыя.*)

Нацыянальны характар нашага народу адбіваецца ня толькі ў мове, песьнях, але таксама і ў адзежы. Інакш гавора і інакш адзяецца Немец, Італьянец, Паляк, Украінец і г. д., а інакш Беларус. Пакуль народ мае пад успомненымі ўзглядамі свае асаблівасьці, датуль жыве паўнатою жыцьця народнага. Калі мы хочам жыць і разьвівацца, то павінны старацца і гэтыя асаблівасьці паддзержываць.

Як там ў чым, але ўжо для вопраткі, для песьні роднай, гульняў і родных абычаяў можам найбольш зрабіць мы, беларускія дзяўчаты.

Дык да ўсьведамленьня, да працы клічу Вас!

*Пралеска.*

---

*) У будучыне пастараюся сабраць і апісаць звычаі сваей староннкі.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Крывічы, іх суседзі і наезьнікі.

Суседзямі славянаў, а такжа частымі наезьнікамі на славянскія землі былі Готы, народ гэрманскага племя, вышаўшы з сваей бацькаўшчыны — Скандынавіі. Народ гэты ў II-III стагодзьдзі па Нараджэн. Хрыста прайшоў праз славянскія землі ў граніцы Рымскай дзяржавы, дзе стварыў некалькі дзяржаўных арганізмаў як нпр: Остгоцкае каралеўства ў Італіі, Вестгоцкае — у Гішпаніі і Паўднёвай Францыі.

Крывічы спаткаліся з Варагамі праўдападобна ўжо ў I ст. па Хрысьце. Праз крывіцкія землі Готы паволі ішлі на Поўдзень. Калі прайшлі Готы, пачалі нападаць на крывіцкія землі аднапляменьнікі Готаў—Варагі.

Крывічы саткнуліся з Готамі каля VIII ст., аб чым сьведчаць знаходжаныя манэты па ўзьбярэжжах Дзьвіны, Волгі, Нёмана і Прыпяці. Ужо ў гэтыя стагодзьдзі на берагох Волгі, каля цяперашняй Казані — Самары было багатае і сільнае царства Баўгарскае, а ніжэй каля Астрахані і ў парэччы Дону — Хазарскае.

На захад ад крывічоў на паўвостраве Скандынаўскім (дзе цяпер Швэцыя і Норвэгія) жылі патомкі Готаў Варагі. Варагам трэба было рабіць абмен сваіх тавараў з царствам Баўгарскім і Хазарскім. І якраз тэрыторыя, займаная Крывічамі сталася гандлёвым шляхом паміж Захадам і Усходам. У VIII і IX ст. Варагі з таварамі праяжджалі праз нашу зямлю. Тарговы шлях у тыя часы мог быць толькі водны, бо ён быў найвыгаднейшы і ўрэшце іншых ня было (шосаў і чыгункаў тагды ня знали). Найстарэйшым шляхам водным быў шлях з Захаду на Усход па Дзьвіне і Волзе, які адносіцца да часоў Гоцкіх.

Гоцкія купцы побач з таргоўляй, як і іншыя тагачасныя купцы, займаліся грабяжом меснага насельніцтва, якое напатыкалі па дарозе. Здараліся выпадкі, калі гэткія купцы падбівалі слабейшыя плямёны, якія трапляліся ім па дарозе і засновывалі на іх землях дзяржавы свае. Такое панаваньне і захопнасьць Готаў і Варагаў у нас, паводле дадзеных навуковых, існавала аж да IX ст., але ў пачатку IX ст. пры невядомых нам варунках Готы былі прагнаныя з краю. Праўдападобна ня ўсе былі прагнаны, бо здаецца, што ў парэччы Дзьвіны і Нёмана асталіся князі старога гоцка-варажскага паходжаньня. Аднак Славяне, ня гледзячы на тое, што пазбыліся страшнага ворага, ўсёж-такі не здалелі сарганізавацца ў сільную дзяржаву, бо рожныя іншага паходжаньня купецка-разбойнічыя шайкі не давалі супакою. Дзеля гэтага, Ноўгародзкія і Пскоўскія Крывічы,

на якіх найбольш націскалі чужынцы з поўначы, пастанавілі прыняць да сябе для абароны адну вайскова-купецкую шайку. Зьвярнуліся яны ў гэтай справе да нармандзкага князька, якога называлі варажскім або рускім. Гэты князёк называўся Рурык. Рурык згадзіўся на прапанову Крывічоў і прышоў да іх з сваей дружынай. Той лад, які быў заведзены у Ноўгарадзкіх Крывічоў не спадабаўся Варагам, бо яны былі гэта даўна прывыкшы да разбойнічага жыцьця і іх цягнула далей. Як на тыя часы, то ў Ноўгарадзе быў даволі добры грамадзкі лад; жыцьцём грамадзкім кіравала веча. Дык вось разгульным і занархізаваным Варагам гэты лад найбольш не падабаўся. І вось, дзякуючы гэтаму, часьць дружыны варажскай пад кіраўніцтвам аднаго старэйшага дружыньніка — Алега аддзялілася ад Рурыка і пайшла на поўдзень, шукаць сабе больш свабоднага прыпынку. Спаткаўшы па дарозе г. Смаленск, Алег не чапаў яго, бо гэты горад быў добра ўмацаваны і баронены, як кажа летапісь: „Зане бѣ градъ великъ и многолюденъ“..., але, пасунуўшыся ўніз па Дняпру, убачыў Алег слаба ўмацаваны і баронены горад Кіеў. Алег тут затрымаўся, пабіў мясцовых князёў і сам абвесьціў сябе князем славянскага племя—Палянаў, якое там жыло.

Весткі аб нова-заснаванай вольна-гэрманскай дзяржаве разышліся бадай па ўсіх славянскіх землях і паўночна-гэрманскіх плямён і ўсе стараліся прыхінуцца да новага князя. Алег, веручы ў свае пасьпехі, задумаў напасьці на багатую сталіцу Грэцыі — Візанцыю. Гэты паход з лічным войскам удаўся яму. Рожныя легенды і басьні фантастычныя аб паходзе Алега на Візанцыю зноў зварухнулі Варагаў—Нарманаў з Скандынавіі, адкуль хлынула новая хваля чужынцаў на нашыя землі. Аднак не заўсёды былі удачнымі паходы на Візанцыю, асабліва пры наступніках Алега, але заваеваньне усходня-славянскіх плямён узбагачывала вараскае войска (грабяжы і даніны зьбіраныя ад падбітых народаў). Гэта выклікала ў Варагаў энэргію да далейшых подвігаў так, што да палавіны X ст., яны захапілі абшары ад Ноўгарада да Карпатаў і ад Драгічына да Дову. Успомненыя заваяваньні былі роблены ад імені „Русі“ і кожную заваяваную зямлю, Варагі лічылі сваей уласнасьцю.

Як паўстала слова „Русь“ пастараюся выясьніць на падставах довадаў вучоных. Копэнгагскі праф. Wilh. Thomsen кажа: што фінскае слова Ruotsi, якім Фіны называлі Варагаў, ёсьць перароблена з стара-нямецкага слова Rothsmenn, знача вясьляр, марскі чалавек. Гэты прыметнік „Ротс“ „Рус“ быў тасаваны да высяленцаў на ўсходня-славянскія землі. Проф. Шахматаў у працы: „Сказаніе о призваніи Варяговъ“ Петроградъ 1914 г. кажа, што слова „Русь“ ня ёсьць славянскім, але фінскім. Фіны гэтак называлі Вара-

гаў, якія прахадзілі праз іхныя землі на Усход. Славяне запазычылі ў Фінаў імя „Русь" для азначэньня Варагаў таксама, як яны запазычылі ў іх-жа назовы рэк і вазёраў, засяляючы сабой пракавечныя фінскія землі. Гэтае імя „Русь" для азначэньня Варагаў перададзена Словенамі і Крывічамі также і паўднёвым Славянскім племёнам, перададзена так, як перадаюцца наагул запазычаныя словы."

Паўсталі і паўстаюць яшчэ новыя тэорыі аднośна гэтага пытаньня, але яны мала папулярныя пакуль-што і дзеля гэтага аб іх не ўспамінаю. У тых Славянскіх землях, куды прыйшлі Нарманы—Русы паводле ўмовы, улада іх была агранічанай (прык. Ноўгарад), але ў землях, заваяваных Варагамі — Русамі ўлада іх станавілася абсалютнай і вечы славянскія сусім касаваліся—моўклі.

Дзеля таго, што Русы даражылі Ноўгарадам, як першай брамай у славянскія землі—яны стараліся дагаджаць-ладзіць з Ноўгарадцамі.

Як перш было сказана, Алег абмінуўшы сільны горад Смаленск з прылягаючымі да яго Крыўскімі абшарамі, заняў Кіеў і стварыў там сільную паўднёва-варажскую дзяржаву. Нарманы не маглі з гэтым згадзіцца, што дзьве нарманскія дзяржавы Ноўгарадзкая і Кіеўская падзелены Смаленскай зямлёю. Дзеля гэтага Нарманны-Русы за ўсялякую цану пастанавілі заваяваць Смаленскую зямлю і ўканцы заваявалі. І ўрэшце пад канец X ст. (970-980) заваявалі Варагі—Русы Тураўскую і Полацкую землі. Падбіўшы Полацак, Русы вырэзалі ўсю княжую сям'ю князя Рогвалада і яго двух сыноў, а дачку Рагвалодаву—Рагнеду, кіеўскі князь Уладзімер узяў сабе за жонку.

Вось гэтакім чынам, у X ст. на Крыўскіх і наагул усходня-славянскіх землях, зьявіўся новы гістарычны дзейнік—нарманскае або варажскае племя—Русь.

(далей будзе).

**М. Пяцюкевіч.**

# Куток для спорту.

### Ход — спацыр

Найдаступнейшым і найпапулярнейшым спортам гэта ёсьць звычайная прагулка па вольным паветры, выяўляная ў спацыру—ходзе.

Хадзіць можа кожны, але ня кожны ўмее так, як павінен хадзіць чалавек. Не дарма кажуць: „ходзіць, як качка" „ходзіць як мядзьведзь" і г. д.

Каб ход быў карысны, ён павінен быць правільны.

Ня гледзячы на тое, што ход ёсьць рухам штодзеннага жыцьця, аднак многа людзей ня ўмее хадзіць.

За прыклад можа паслужыць хаця-б тое, што кожнага навабранца, які, здавалася-б, павінен умець хадзіць, як 21-гадовы дзяцюк, мусяць некулькі нядзель у войску вучыць ходу, дый не аднаму механатаму хлапцу гэтая навука даволі трудна ўдаецца.

Галоўным варункам правільнага ходу ёсьць адпаведная постаць, г. значыць правільнае ўлажэньне розных часткаў цела, ў якім-бы нашыя органы маглі працаваць у найвыгаднейшых абставінах.

Дык вось: постаць павінна быць простая, цела—трошкі пахілае наперад, галава паднятая ўгару, але не зашмат, грудзі выстаўлены наперад, левае і правая плячо павінны тварыць раўналежную да зямлі лінію.

Гэткая постаць спрыяе аддыханьню, што ўплывае карысна на працу сэрца і на добры бег крыві.

Стапу высуненай нагі трэба стаўляць проста перад сабой ў кірунку ходу, а не адхіляць у бок. Выстаўленая проста нага спаўняе ролю вагара, папіхаючага нашае цела наперад. Нельга выкручываць у бакі плечаў, бо ад гэтага паўстае брыдкае гойданьне тулава. Рукі не павінны вісець штыўна, як палены, а нармальна варушыцца. Таксама яны не павінны зашмат гойдацца. Адным словам ход ёсьць камбінацыйным рухам, які трэба ўмець.

Толькі правільны эстэтычны ход будзе карысны здароўю і прыгожы для вока.

Др. мэдыцыны Тодар Драбчык гэтак кажа аб ходзе: „Калі згодзімся на тое, што вартасьць кожнага руху ў нашым жыцьці залежыць ад пабуджэньне правільнага кровабегу, прыводзячага прысьпешаную перамену матэрыі г. зн. утрыманьня і развою цэлага раду фізыялягічных дзейнасьцяў, спраўна імкнуўшыхся да будовы новых і адбудовы зужытых тканкаў, дык я ня знаю цьвічэньня, якое-бы гэтак карысна ўплывала на ўсе бяз вынятку органы, як ход.“ (Wychowanie fizyczne młodzieży— Dr. Drabczyk).

Узяўшы ўсё вышэй сказанае пад увагу, кожны ў вольных ад працы часінах, павінен сьпяшыць на ўлоньне прыроды і там спацыраваць, любуючыся прыгожасьцю нашых родных палёў, аддыхаць здаровым паветрам і праставаць сагнуўшуюся ад працы сваю постаць.

**У. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## ЦІ ЧУЕШ БРАТ...?

Ці чуеш брат,
Як звоніць звон,
Ці-ж ты ня рад? —
—Нас будзіць ён!
Нас будзіць ён;
Пара ўставаць,
То звоніць звон
Заве каваць.
Заве каваць,
Заве на сход;
Зьбірайся раць
Хутчэй ў паход!
Хутчэй ў паход
Забраны люд!
Склікайце сход,
Тварыце суд.
Хутчэй ў паход
За родны Край!
Забраны люд
Свой сьцяг трымай!
Ці-ж век цярпець,
Ці-ж век маўчаць,
У цемры жыць —
—І так сканаць?
Хай звоніць звон,
Хай медзь зьвініць,
Хай будзіць ён
Усіх, хто сьпіць.

**Леанід з пад Вішнева.**

## ХАМ.

Гаротнага сын я народу,
Я змучаны працаю „хам“
За лепшую долю—свабоду
Юнацкія сілы аддам!

Мне млеюць ад молата рукі
І потам крывавым пранік,
Цярплю паняверку і мукі.
Я сын Беларусі — „мужык.“

Я веру ў творчыя сілы,
За шчасьце сваё пастаю;
Да цёмнай халоднай магілы
Я лепшую долю скую.

**Ар—Ар.**

## ВАРУШЫСЯ, МОЛАДЗЬ!

Варушыся, моладзь міла,
моладзь — будучыня, сіла.
Ўсе на плошчу сабірацца,
розным спортам аддавацца!
Варушыцеся ахвотна,
каб ня было вам маркотна,
каб ніхто не ленаваўся,
руху, працы ня чураўся.
Хто муштруе ногі, рукі,
той ня ведае прынукі.
Да ўсяго ён ёсьць ахвочы,
відзяць ўсё ягоны вочы.
Хто гартуе дух і цела,
у вагонь той пойдзе сьмела,
не прад чым ня мае страху—
асіліць усё з размаху;
не зьбянтэжыць яго сіла,
ані кат, ані магіла.
Будзе ён усім карысны,
і прыемны, і памысны;
ўсе такога ў нас палюбяць,
на‘т дзяўчаткі прыгалубяць,
будзе ён пад роднай стрэхай
і бацькам сваім пацехай.
А старонка наша Родна
прывітае яго годна
і усьцешыцца сардэчна —
Яна—сумная адвечна,
бо надзею мець‘ме ў сэрцы,
што ня будзе ў паняверцы:
бо як кожны будзе бойкі,
так адважны і так стойкі,
дык Яе—Старонкі мілай —
ня скуе ніхто ўжо сілай.

**Казлоўшчык.**

* * *

Няма ўжо болей дзён, тых шэрых, аднастайных,
Што сеялі заўсёды ў сэрцы маім сум,
Няма ўжо тых панурых, балюча—прыкрых дум
У зімовыя часы так часта адчуваных.
Ужо прышла вясна... Дні радасьці, раздольля,
У песьнях срэбна-плынных зьвініць уся неба выш,
Аж сэрца ў маіх грудзях так б‘ецца, быццам узвыш
Вось-вось яно ўзьляціць, сьпяваць там песьні волі.
І дужым чуешся у гэткія мінуты.
З адвагаю пайшоў-бы ўсе крыўды я змагаць.
І з радасьцю ў змаганьні жыцьцё-б хацеў аддаць,
Каб толькі збавіць край ад сьлёзаў, ад пакуты.

**С Гаротны.**

# „Вучоны“ сын

У аднэй вёсцы, у бедненькай хатцы нарадзіўся хлопчык, імя якому было дадзена Міхась. Бацькам ягоным прыходзілася перанасіць вялікае гора, пакуль ён троху падрос і паразумнеў, але гэта нічога дзіўнага, бо ў кожных бацькоў гэтак бывае трудна, толькі ня ўсе бацькі аднолькавую атрымліваюць заплату ад сваіх дзяцей.

Калі Міхась меў сем гадоў, бацькі аддалі яго ў навукі. Праўда, што спачатку вучыўся добра. Скора скончыў пачаткавую школу. Пасьля бацькі аддалі Міхася ў места, у гімназію. Тут ужо бацькам і завяршылася, бо трэба-было плаціць за гімназію, а таксама і на пражыцьцё пасылаць, а грошаў няма; хаця каб была гаспадарка багатая, тады можна было-б што-кольвечы прадаць, а як бедная — скульжа возьмеш?... Ну, але неяк ішло, бацькі стараліся, як маглі, прадавалі пасьледнюю скацінку, а ўсё-ж-такі пасылалі грошы для свайго так мілага, роднага сынка.

Міхась спачатку, пакуль ня знаўся з гарадзкімі паненкамі — быў добрым, вучыўся як-найлепш, але потым, як больш прызвычаіўся да места і да паненак, перастаў вучыцца і што раз больш пачаў вымагаць ад бацькоў дапамогі, і датаго яшчэ пачаў бацькоў абманываць. Вось піша адзін раз так:

„Дарагія татка і мамка, я ўжо скора канчаю гімназію, як можаце старайцеся найбольш прысылаць грошай, бо цяпер і за навуку трэба болей плаціць і кніжак шмат трэба, а кніжкі, ведаеце самі, што дарагія, бо купляю ўсё грубыя“...

Прачытаўшы гэтае пісьмо, маці вельмі ўсьцешылася, што і яна дачакае павагі ад людзей, бо гэта-ж сын яе будзе вучоны. Мела яна яшчэ сувойчык палатна, панясла, прадала і выслала для свайго мілага сынка, хаця каб скарэй ён канчаў навукі, тады можа дачакаецца пацехі і помачы...

Сын, атрымаўшы грошы, скора прагуляў і зноў астаўся з голымі рукамі. Цяпер думаў ён, думаў, што рабіць, што чыніць, прасіць болей няма як, а тут ужо жывот марша галоднага грае і ў паненкі ягонай сьлёзка з вочка выцякае; няма рады, што рабіць?... Нарэшце надумаўся. Напісаў пісьмо бацькам, што ўжо акончыў навукі і на днях вернецца дамоў.

Атрымаўшы і прачытаўшы пісьмо, маці цопам-лопам давай скарэй ў хаце прыбіраць: тут пасуду сьпяшаючыся мые, ложкі засьцілае, падушкі папраўляе і сама ня ведае за што перш-найперш узяцца. Бацька ізноў стараецца прыбраць на дварэ каля хаты, каб чысьцей і прыямней было для свайго роднага сыночка.

Даведаўшыся аб прыезьдзе Міхася, вясковыя, ўсе як адзін, сабраліся каля яго хаты і чакалі—кожны хацеў паглядзець на вучонага Міхася. Але доўга ня было, аж нарэшце едзе нейкі старычок і, ўбачыўшы гэту таўпу людзей, пытае:

— Чаго вы тут, людцы мілыя мае, пазьбіраліся, памёр хто, ці якой немачы?

— Не, дзядулька ня ведаеш, гэта-ж вучоны Міхась сягоньня прыяжджае дамоў — адказала цэлая грамада.

— Эх, мае вы людцы, цяпер „вучоных" і недавучкаў многа разьвялося на сьвеце, ходзяць толькі па вёсках і нашага мужыка абманываюць - сказаўшы гэтыя словы, паехаў далей.

Незадоўга ўбачылі і „вучонага" Міхася, які ішоў з такой рызыкай, што нават і шапкі ня зьняў перад сваімі суседзямі. Суседзі засьмяяліся і сказалі:

— Вось табе і вучоны, відаць што добра навучыўся, ужо ня хоча і шапкі зьняць перад суседзямі. Дай-жа Божа такіх вучоных ня знаць і ня ведаць...

А як з бацькамі прывітаўся „вучоны" Міхась — ніхто ня ведаў, толькі назаўтра людзі пачулі, як бацькі горка плакалі і праклінала свайго „вучонага" сына...

**Янка Ваўштолскі.**

## „Хірамант".

(Праўдзівы абразок з вясковага жыцьця).

Усе ў вёсцы даведаліся, што ў мястэчка прыехаў нейкі чалавек, каторы прадказывае людзям будучае шчасьце, а называецца той чалавек „хірамант". Скуль ён прыехаў — дык ніхто добра ня ведаў, толькі ведалі, што прыехаў і за аплату трох злотых прымаець інтэрэсантаў. Тры злоты, гэта-ж на вёсцы цэлы маёнтак, дык спачатку ніхто не адважываўся нясьці да хіраманта гэткую суму. Але з часам знайшліся ахвотнікі. Некаторыя маладыя хлопцы сабралі нават больш як па тры злоты, нават да „пяцёркі" дацягівала, аднак ніхто не адважыўся першы паехаць да „тайнага хіраманта".

Аднак скора і „першы" знайшоўся.

Зьмітрук, малады, адважны двацацігадовы хлопец—ўжо стралец да дзявочых „сэрц" — як яго называлі ў вёсцы, сабраў тры залатоўкі і задумаў паехаць да хіраманта.

— „Хоць жыцьцё можа страчу, аднак „хіраманта" ўбачу"—казаў ён сам да сябе і з вялікім страхам паехаў ў мястэчка да „хіраманта."

Калі прыехаў ў мястэчка, давай азірацца па бакох, ці ня ўбачыць дзе абвесткі аб „хіраманце". І толькі, калі падехаў да хаты жыда Боруха, убачыў на дзьвярах пеперу, а

на ей вялікімі чырвонымі літарамі былі напісаны такія словы: „Чалавеча! Хочаш пазнаць будучае шчасьце, зайдзі ў гэты дом і за невялікую аплату, бо толькі тры злоты, раскажа табе ўсё хірамант—графолёг“.

— Трэба зайсьці, трэба ўзнаць сваё шчасьце! — сказаў Зьмітрук, адчыняючы нясьмела дзьверы.

— „Сьмялей, сьмялей!“ — адазваліся з-за дзьвярэй галасы.

Зьмітрук прачыніў.

Поўныя сені былі набіты людзьмі. А там ў куточку, ў сьцяне, былі дзьверы, праз каторыя нейкі маладзенькі жыдок ўпушчаў людзей да хіраманта. Доўга прастаяўшы ў сенях, Зьмітрук нарэшце дачакаўся сваей калейкі і жыдок, узяўшы ад яго тры злоты, ўпіхнуў праз дзьверы да хіраманта. Зьмітрук нясьмела пачаў азірацца кругом, але хірамант, бачучы нясьмеласьць яго, крыкнуў:

— Чалавеча, падхадзі бліжэй!

Зьмітрук падыйшоў.

— Што жадаеш знаць? — запытаў хірамант.

— Будучае маё шчасьце—адказаў нясьмела Зьмітрук.

—Спазнаеш, толькі пакажы твар і руку.

Хірамант пачаў глядзець Зьмітруку ў твар і на рукі, І толькі цяцер Зьмітрук пазнаў, што хірамант ёсьць жыдом так каля 35 гадоў.

—„Тваё жыцьцё ёсьць шчасьлівае — пачаў урачыстым голасам хірамант — ты разбагацееш скора, а жаніцца будзеш за тры або за чатыры месяцы. Пражывеш многа вельмі гадоў, памрэш ў дастатках і багацтве! Такая ёсьць твая доля! А цяпер выхадзі вот гэтымі дзьвярамі — і жыд-хірамант паказаў дзьверы, паложаныя ў працілеглай сьцяне ад дзьвярэй уваходных і крыкнаў:—„наступны!“

Увайшоў наступны, а Зьмітрук выйшаў і апынуўся на дварэ. Быў ужо позны вечар, калі Зьмітрук паехаў да хаты, задумаўшыся над славамі хіраманта. —„Казаў, што ажанюся, дык мусіць трэба жаніцца“—цьвярдзіў Зьмітрук, едучы да хаты...

* * *

Вярнуўшыся дамоў, Зьмітрук кінуўся бацькам да ног з просьбай, каб пазволілі жаніцца.—„Хірамант“ казаў, што за тры месяцы ажанюся, дык і мушу, ня можна нарушаць яго слоў“. — Бацькі падумалі, пагаварылі паміж сабою. „Ну што-ж, раз „хірамант“ казаў, што Зьмітрук ажэніцца, нічога не парадзіш, трэба жаніць“ — і пачалі рабіць прыгатаваньні да вясельля, а Зьмітрук тымчасам выбраў сабе дзяўчыну. І ў роўным ліку тры месяцы ад дня быцьця ў хіраманта, адбылося Зьмітрукова вясельле.

Так, спраўдзілася хіраманта „прадказаньне“...

**Лявон Жалейка.**

# Лісты.

## АДРАДЖЭНСКІ РУХ.

**в. Гаравыя, засьц. Карчы і Пабяржыні,** Браслаўскага пав. Кінуўшы вокам на нашу ваколіцу, праканаемся, што беларускую адраджэнскую і культурную працу вядзе пераважна моладзь. Старэйшае грамадзянства ня так многа да гэтага прычыняецца. Праўда, што старэйшыя людзі ўжо пераважна перапрацаваныя і больш застрашаныя, ня толькі новым рэжымам, але нават яшчэ рускім царызмам. А малодшае пакаленьне бярэцца за беларускую адраджэнскую і культурную працу вельмі ахвотна і сьмела.

Вось-жа хацеўбы я зьвярнуць увагу нашых юнакоў, на каторых усюды настаўлена полёнізацыя, што за культурную працу, за паправу свайго быту, трэба змагацца яшчэ мацней, што перадусім трэба сьцерагчыся ўсялякіх польскіх арганізацыяў, так званых „Кулак млодзежы“, „Стоважышэне млодзежы,“, „Стшэльца“ і іншых, якія спэцыяльна створаны, каб беларускую моладзь разьбіваць. полёнізаваць, а гэтым самым і нішчаць нас. Дык той, хто толькі хоча добра рабіць для свайго беларускага народу, хто чуецца беларусам, не павінны да гэтых арганізацыяў і „кулак“ належаць. Беларускай моладзі ў польскіх „кулках“ ня можна быць нават на паказ. Да гэтых „колаў“ няхай належаць палякі. Нам-жа, беларускай моладзі, трэба рабіць сваю беларускую работу, куць свой лёс, лёс са сталі для свае бацькаўшчыны Беларусі!

Дружна — разам  
Грамадою моладзь ты ідзі —  
І так доўга і бязчынна  
Ты ўжо болей не сядзі!

**Карчоўскі.**

## БУДЗІМСЯ І МЫ.

**в. Баяры,** Нясьвіжскага пав. Старонка наша будзіцца. Працу сваю над адраджэньнем пачала ад школы і вось у выніку захадаў нашых сялян маем цяпер супольна з в. Вялікая Ліпа школу. Праўда, што ня зусім яна беларуская, але ўсё-ж-такі, адзін дзень вучаць у ёй дзяцей пабеларуску, а адзін па польску. У 1928 г. зарганізавалі малачарню, якая цяпер ўжо працуе нішто, бо сьпярша то цяжка ішла! Таксама трэба адзначыць добры спосаб у нашага сялянства што да розных панскіх паляўнічых, якія хадзілі па вясковых палёх і забівалі зьвярыну. Нашыя сяляне, бачачы гэта, не дазволілі дарма паляваць і цяпер бяруць за гэта плату; за гэтыя грошы, пастараўшыся помачы ў адпавед-

ных арганізацыяў, сарганізавалі пажарную стражу. Цяпер думаюць ўсе, а пераважна моладзь, каб наладжваць стала прадстаўленьні, бязумоўна беларускія, на перашкодзе да зьдзеўсьненьня гэтае так важнае працы стаіць недахват адпаведнае будыніны. Але думаю, што неяк і з гэтым з часам дамо сабе раду.

Астаецца толькі пажадаць, каб праца гэта ішла шпарчэй і прычынілася да як найлепшага разьвіцьця нашага краю!

**Бараац.**

НЕПАТРЭБНЫЯ КУРСЫ.

**Жыравіцы**, Слонімскага пав. У нас нядаўна адкрыліся курсы новамодных танцаў. Вось-жа хацеўбы я зьвярнуць увагу жыравіцкае моладзі, што лепшую будзе мець яна карысьць, калі замест марнаваць грош і час на вучэньне нейкіх ламанцаў, заложыць Гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры, адкрые пры ім бібліятэку-чытальню. А танцаваць лепш сваю Лявоніху, Юрачку ды іншыя, не вымагаючыя дзікіх выкручваньняў.

Ул. С.

# Хроніка.

**Суд над Рэдактарам і Выдаўцом „Шляху Моладзі.“** 11-га мая с. г. у Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа Рэдактара Мар'яна Пяцюкевіча і Выдаўца Янкі Баградановіча час. „Шляху Моладзі,“ абвінавачаных па 129 арт. К. К. за сканфіскаваны № 8 „Шляху Моладзі.“ Суд разпазнаўшы справу, абодвых абвінавачаных апраўдаў. Баранію ведамы ў Вільні адвакат Аляхновіч.

**Зацьверджаньне канфіскаты.** Рэдакцыя „Шляху Моладзі“ атрымала паведамленьне з Віленскага Акружнога Суду, што канфіската час. „Шлях Моладзі“ № 4 за 1930 г. зацьверджана.

**Матура.** У Віленскай Беларускай Гімназіі распачаліся матуральныя экзаміны, да якіх прыступіла 27 асоб.

**Сканфіскавана** ў гэтым месяцы выдрукаваны Мэморыял Беларускага Пасольскага Клюбу да Лігі Народаў.

**Зьезд каталікоў Беларусаў і Літоўцаў.** 4-га траўня с.г. ў Вільні адбыўся Зьезд Каталікоў Беларусаў і Літоўцаў. На Зьездзе было больш як 300 асоб. Зьезд распачаўся на-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

бажэнствам у касьцеле св. Мікалая, пасьля адбыліся нарады, рэфэраты і выбраны сталы Камітэт для каталіцкае акцыі. Зьезд также прыняў адпаведныя рэзалюцыі.

**Выбары ў Сойм у Лідзкім і Сьвянцянскім вокругах.** 25 г. м. адбыліся выбары у Сойм у Лідзкім вокрузе, у выніку каторых беларусы якія ішлі на выбары вельмі разьбіўшыся, атрымалі ўсяго 2 мандаты, рэшта 5 мандатаў атрымалі польскія партыі. Вынік гэты паказвае нам, як нізка яшчэ стаіць у нас нацыянальная сьведамасьць і як трэба многа і энэргічнай працы пасьвяціць для усьвядамленьня нашае вёскі, якая самахоць лезе ваўку у горла.

13-га-ж ліпня с. г. маюць адбывацца перавыбары у Сьвянцянскім вокрузе.

**З Польшчы.** На жаданьне т. зв. Цэнтролеву (польскіх левых партыяў) Прэзыдэнт склікаў Сойм на Надзвычайную Сэсію, якую па склікаваньні адлажыў на 30 дзён, г. зв. да 25 чэрвеня с. г. Гутаркі аб розпуску Сойму не сьціхаюць. Ходзяць нават чуткі, што новыя выбары маюць быць у гэту восень, або ў пачатку 1930 г.

**З заграніцы.** У Індыі выбухла рэвалюцыя, індыйцы адкрыта выступаюць проціў англійцаў. Паліцыя арыштавала правадыра рэвалюцыі слаўнага Гандзяга. Яго-ж мейсца заняла жанчына пісьменьніца Найду, якую таксама за напад на англійскі склад солі, засудзілі англійскія ўлады на 9 месяцаў. Гэта аднак ня ўстрымлівае рэвалюцыі.

## Усячына.

**Падаткі.** Паводле падлічэньняў цяперашнія падаткі ў 2 з палавай разы большыя, як былі перад вайною.

**Даўгі.** Паводле апублікаванае справаздачы амэрыканскага фінансовага дарадчыка пры польскім урадзе аб эканамічным палажэньні Польшчы, усіх даўгоў дамашніх і заграгічных прыпадае 15 даляраў на аднаго чалавека.

**Злавілі бандыта.** Як падаюць тэлеграмы на днях, у Нямеччыне паліцыя злавіла грознага бандыта з Дусэльдорфу. У часе следзтва прызнаўся ён да больш як 10 забойстваў.

**Цэпэлін** — вялікі паветраны нямецкі лятак ізноў паляцеў цераз Атлянтыцкі акіян у Амэрыку.

**Ня спаў 135 гадзін.** Праф. унівэрсытэцкага лякарскага аддзелу ў Чыкаго для навуковых досьледаў дакалаў асаблівай пробы, як доўга можна ня спаць. Праф. гэны др. Фішэр, вытрымаў ня сплючы 135 гадзін. У часе пробы сьлядзіла за гэтай справай спэцыяльная лякарская камісія.

**Буры.** У Наваградзкім ваяводзтве прайшла вялікая бура, якая зьнішчыла 30 вёсак і 14 фальваркаў. Страты вялікія.

**Пажары.** Апошнім часам усюды вельмі часта бываюць пажары.

**Піяўкі.** У паўдзённай Амэрыцы, у даліне найбольшай на сьвеце ракі Амазонкі, ёсьць піяўкі 1 мэтр даўжыні. Яны

успаўзаюць на дрэвы і адтуль кідаюцца на людзей і зьвяроў. Яд гэтых п'явак ёсьць сьмяротны і ўкушаныя паміраюць. Падобныя п'яўкі ёсьць яшчэ ў Азіі на востраве Цэйлёне, але толькі многа меншыя: 2 см. даўжыні. Нашы п'яўкі могуць толькі цераз укушэньне заразіць арганізм бактэр'ямі якойсь заразы, яду атрутнага ня маюць.

## Наша пошта.

В. В. Атрымалі, надрукуем у наступным нумары, дзякуем.

Вясковаму М. К. Карэспандэнцыю атрымалі, зьмесьцім у наступным нумары. Дужа цешымся, што Вы ня гледзячы на розныя перашкоды, працуеце на карысьць беларускае справы, так павінен паступаць кожны беларус. За пажаданьні дзякуем.

Ул. Бяздольнаму ў Латвіі. Адказ на першае Вашае пісьмо дана Вам у № 3 „Шляху Моладзі". Верш Ваш слабенькі, дзеля гэтага ня можам яго надрукаваць.

Карчоўскаму. Карэспандэнцыю зьмяшчаем. Матэр'ялы Вашы вельмі цэнныя, магчыма надрукуем іх у асобнай кніжыцы. Просім пісаць надалей.

С. Пяюну. Дзякуем за памяць, дай Божа, каб споўніліся Вашыя пажаданьні ў як найхутчэйшым часе.

Я. Салаўю. Як бачыце з матэр'ялаў прысланых карыстаем. Вашыя запіскі вельмі цэнныя, пішыце больш, яны вельмі прыдадуцца для навуковых мэтаў.

А. Лаўрыновічу. Атрыманыя вершы разгледзім і адказ дамо ў наступным нумары.

Леаніду з пад Вішнева. Вершы атрымалі, адзін з іх зьмяшчаем, дзякуем. Пісьмы можаце прысылаць даплатныя. Вас хтось вельмі подла і ложна паінфармаваў, хіба што вораг беларускае справы. Не зважайце на гэта, бо гэта мана і подлы подступ, а далей трымайцеся беларускага нацыянальнага кірунку, якога трымаемся і мы.

Таляронку Сяргею. Адказ дамо пісьмом.

Лявону Жалейцы. Дзякуем, як бачыце „Хіраманта" друкуем. Просім пісаць больш.

На просьбу „Шлях Моладзі" высылаем: Др. Ст. Грынкевічу, Я. Шостаку, Ю Ючу, Я. Жаку, К. Шыманскаму, Граблеўскай, Фр. Рачыцкай, Антону Янушко, Майсюку, С. Пабдржыну, Фр. Малецкаму і чакаем падпіскі.

Атрымалі падпіску на „Шлях Моладзі" ад: кс. др. І. Рэшаця 10 зл., Э. Астапавічанкі 6 зл. 20 гр., Зімніцкага, Пазьняка Андрэя, Леаніда Шыдлоўскага па 4 зл., Бабарыкі 3 зл., Я. Пылінскага, П. Мальчыка, Чаплінскага В., Шэйбака Яна, Крупскага Дзямяна па 2 зл.; Януковіча П., Саўчыца П. па 1 зл. Усім шчыра дзякуем, „Шлях Моладзі" высылаем.